



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

15 лістапада 2019 года №46 (1281)

18+




# «Закрыццё запраўкі для нас – катастрофа»

## У Ілы збіраюцца закрыць АЗС. Ільянцы – супраць

«Беларуснафта»: затое адкрыем запраўку ў Сосенцы

старонка 2

Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.



На Мядзельшчыне запусцілі экалагічную ачышчальную станцыю

старонка 3

# Расклад руху цягнікоў эканамкласа на 18-21 лістапада

старонкі 4-5

ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/




Фота забяспечана арганізатарамі

Падчас святочнага канцэрта.

## У ільянскім каледжы адзначылі Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі

ВІЛЕЙКА

**5 лістапада ў Ільянскім дзяржаўным аграрным каледжы зладзілі канцэрт, прысвечаны Дню работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці.**

Выканальнік абавязкаў дырэктара **Галіна Вашынка** і старшыня прафкама **Святлана Валовік** павіншавалі ветэранаў працы, супрацоўнікаў каледжа і навучэнцаў – будучых работнікаў сельскай гаспадаркі.

Галоўных герояў мерапрыемства – ветэранаў – узнагародзілі граматамі і сувенірамі. Падарункі падрыхтавалі самі навучэнцы ў гуртку «Стылёвыя штучкі» пад кіраўніцтвам **Наталлі Талстыкі**.

Ветэраны працы дзякавалі адміністрацыі, культарганізатару **Казіміру Талстыку**, навучэнцам за канцэрт і ўвагу.

Выступіла таксама **Святлана Несцяровіч**, якая шмат гадоў кіравала каледжам. Яна пажадала навучэнцам поспехаў і дасягненняў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Жыхарка Ільі ўтрымлівае прытулак для бадзяжных жывёл

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

**Аб прытулку для бадзяжных жывёл, што некалькі год утрымлівае ва ўласным двары мясцовая жыхарка ў Ільі, нам расказала чытачка з Мядзельшчыны Жанна Дуброўская.**

– 63-гадовую гаспадыню ільянскага прытулку для бадзяжных жывёл завуць **Тамара Шмаргалава**. Яна родам з Казахстана, прыехала ў Ілью 25 гадоў таму і амаль адразу заснавала такі куток для жывёл ва ўласным двары. Пазнаёмілася я з гэтай апантанай жанчынай два гады таму, калі па волі лёсу прыехала ў Ілью працаваць у мясцовую бальніцу педыятрам.

Жанна прызнаецца, што кожны дзень па дарозе на працу і назад не магла абыякава прайсці каля двара, дзе заўсёды было шмат жывёл.

Цяпер Жанна ў Ільі не жыве, але бывае часам, падтрымлівае сувязі з гаспадыняй прытулку. Сёння тут 13 катоў з кацянятамі, а часам бывае да 20. Таксама ёсць тры вялікія і адзін маленькі сабака.

– Выдаткі на корм, лекі, антыпаразітарныя медыкаменты, сродкі па доглядзе, вітаміны ляжаць на плячах хударлявай на выгляд, але вельмі жвавай, руплівай пенсіянеркі, якая да таго ж яшчэ і пакутуе ад хваробы апорна-рухальнага апарату, – дзеліцца Жанна. – Каб зарабіць для прытулку, жанчына збірае ягады і здае іх у краму. Пры гэтым заўсёды наадрэз адмаўляецца ад дапамогі грашыма. Прымае з падзякай толькі корм, прадукты, сродкі па доглядзе.

Калі Жанна прыязджае ў Ілью, назірае, што бадзяжных жывёл становіцца больш. На думку жанчыны, гэтаму спрыяюць і папулярныя транспартныя напрамак паміж Мінскам, Вілейшчынай і Мядзельшчынай і тое, што жылыя дамы знаходзяцца побач з праезнай часткай. На хаду вельмі зручна выпусціць з машыны сабаку ці кацяня.

Жанне хацелася б, каб аб прытулку даведалася больш неабыякавых, душэўных людзей сярод нашых чытачоў. Карысная будзе любая дапамога: часовая ператрымка жывёл, дастаўка корму, лекаў, вітамінных дабавак, сродкаў па доглядзе.

Тэлефон Жанны Дуброўскай ёсць у рэдакцыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Запраўка ў Ільі пакуль яшчэ працуе.

# «Закрыццё запраўкі для нас – катастрофа»

## У Ільі збіраюцца закрыць АЗС. Ільянцы – супраць

ВІЛЕЙКА

**У рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты» звярнуліся чытачы з Ільі. Яны занепакоеныя тым, што ў іх аграгарадку збіраюцца закрываць АЗС, якая працуе тут многа гадоў.**

«Шмат людзей запраўляюць свае аўтамабілі менавіта на гэтай запраўцы, – пішуць нашы чытачы. – Таксама тут запраўляецца транспарт розных арганізацый. Тут жа мясцовыя жыхары, сярод якіх шмат сталых людзей, запраўляюць свае касілкі і бензапілы, матаблокі. Бліжэйшыя АЗС знаходзяцца ў 30 кіламетрах ад Ільі – у Вілейцы, Вішнёўцы, Маладзечне».

**– Я патрыёт сваёй запраўкі, – кажа мясцовая жыхарка Наталля Акуліч. – Куды б ні ехала, запраўляюся тут, на роднай запраўцы, дзе заўжды можна павітацца з аператарамі. Блізка і зручна. Закрыццё запраўкі для большасці мясцовых жыхароў будзе катастрофай.**

Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» пагутарыў з работнікам запраўкі **Юрыем Пташнікам**. Мужчына сказаў, што запраўку сапраўды закрываюць з-за таго, што яна старая, кантэйнернага тыпу і што няма вялікага абароту. Плануюць, што запраўка ў Ільі будзе працаваць да канца года. А пасля адчыняць новую, у Сосенцы.

Па каментар мы звярнуліся ў канцэрн «Вытворчае аб'яднанне «Беларуснафта». Нам адказаў дырэктар РУП «Беларуснафта-Мінаблнафтапрадукт» **Анатоль Кароткі**:

«Кантэйнерную аўтазаправачную станцыю №15 у Ільі ўвялі ў эксплуатацыю ў 1987 годзе. Цяпер яна не адпавядае тэхнічным патрабаванням і правілам эксплуатацыі АЗС і нормам у галіне аховы навакольнага асяроддзя і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў. Тэхналагічнае абсталяванне маральна састарэла і мае стопрацэнтны фізічны знос.

Па словах Анатоля Кароткага, разам з праектнымі арганізацыямі «Беларуснафта-Мінаблнафтапрадукт» распрацоўваў пытанне аб рэканструкцыі ці мадэрнізацыі АЗС у Ільі. Аднак такі крок не дазволіў бы выканаць супрацьпажарныя і экалагічныя нормы і правілы, санітарныя патрабаванні. Таму вырашылі закрыць запраўку ў Ільі пасля адкрыцця АЗС у вёсцы Сосенка.

Спецыялісты прывялі таксама ацэнку неабходнасці і эфектыўнасці мінімальных інвестыцый. У выніку атрымалася, што калі пашыраць тэрыторыю і будаваць запраўку ў Ільі, тэрмін яе акупнасці расцягнецца больш чым на 30 год.

«Новы аб'ект у Сосенцы знаходзіцца не так далёка ад Ільі, на адлегласці 14 кіламетраў. Гэта дазволіць стварыць максімальна зручныя ўмовы для жыхароў Ільі», – адказаў Анатоль Кароткі.

Адкрыць АЗС у Сосенцы плануюць сёлета ў снежні.

**Аксана ЯРАШОНАК, Ігар ПАЛЫНСКІ.**

# Сцёкавыя воды забрудзілі раку Валожынку

**Валожынскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу па факце забруджвання ракі Валожынкі, расказала карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці Таццяна Беланог.**

У рамках кантролю прыродаахоўнага заканадаўства спецыялісты ўзялі пробы вады з ракі Валожынка. Вынікі лабараторных даследаванняў паказалі перавышэнне забруджвальных рэчываў, што не адпавядае ўстаноўленым патрабаванням.

Па папярэдніх дадзеных следства, перавышэнне забруджвальных рэчываў вады ў рацэ абумоўлена скідам неачышчаных сцёкавых водаў з ачышчальных збудаванняў, размешчаных паблізу вёскі Улазавічы на Валожыншчыне.

**Згодна з папярэдняй ацэнкай, шкода навакольнаму асяроддзю склала больш за 140 тысяч рублёў.**

У рамках устанаўлення фактычных абставін здарэння дапытваюць работнікаў, службовыя асобы арганізацый, вывучаюць дакументы.

Асаблівую ўвагу следчыя надаюць устанаўленню прычын і ўмоў, з-за якіх адбылося забруджванне.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота belrynok.by.

Адкрыццё станцыі.

# Пачала працаваць першая экалагічная ачышчальная станцыя

МЯДЗЕЛ

**5 лістапада ў Мядзельскім раёне адкрылі першую ў краіне экалагічную ачышчальную станцыю. Праект рэалізаваны па нямецкіх тэхналогіях.**

Станцыя размешчаная ў вёсцы Стахоўцы. Менавіта тут знаходзяцца адны з самых буйных рэк і азёр на Міншчыне.

У праекце мадэрнізавалі сістэму фільтравання, выкарыстоўваюць пясчана-жвіровыя фільтры. Такі механічны спосаб максімальна набліжаны да прыроднай ачысткі і патрабуе мінімальных энергазатрат.

Этапаў ачысткі некалькі. Галоўны – біялагічны. На палях знаходзіцца некалькі відаў пяску і расце трысцёг. Праз карані расліны праходзіць фільтраванне – ад азоту. Так вада чысціцца на 95%, затым зноў трапляе ў грунтавыя воды. Хімічныя элементы не выкарыстоўваюцца.

Такая сістэма ачысткі падыходзіць толькі для невялікіх населеных пунктаў, дзе жывуць не больш за паўтысячы чалавек.

**Гэта пілотны праект. Калі ён паспяхова рэалізуецца, аналагічныя пабудовы могуць з'явіцца і ў іншых раёнах Беларусі.**

Чырвоную стужку падчас адкрыцця перарэзалі начальнік упраўлення Дэпартамента па гуманітарнай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **Інга Гарбунцова**, старшыня праўлення «ЭкаБудаўнік» **Гера Мюлер**, выканаўчы дырэктар гэтага ж прадпрыемства **Юры Супрыновіч**, аташэ Пасольства ФРГ па пытаннях эканомікі **Петэр Хэр**, распрацоўшчык праекта **Крысціян Шульц** і старшыня раённага Савета дэпутатаў **Алег Бароўка**.

**Аддзел інфармацыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.11 | 14.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0413 | **2.0556** |
| Еўра | 2.2724 | **2.2626** |
| Злоты, 10 | 5.3291 | **5.2847** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2265 | **3.1987** |
| Грыўня, 100 | 8.2629 | **8.4539** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 5.11 | 13.11 |
| Еўра | 2.2600/2.2850 | **2.2500/2.2760** |
| Долар ЗША | 2.0300/2.0500 | **2.0450/2.0640** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 5.11 | 13.11 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **6,90** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 2,80 | **2,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,80 | **4,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,45** |
| Лісічкі, 1 л | – | **5,00** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Перац, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,90 | **2,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Журавіны, 1 л | 5,00 | **4,00** |
| Ківі, 1 кг | – | **4,30** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | **2,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

# УП «Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі» інфармуе

УНП 600199541

**У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста паміж станцыямі Ждановічы і Ратамка ад 18 да 21 лістапада 2019 г. скразнога руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа і гарадскіх ліній ад станцыі Ждановічы да станцыі Ратамка і назад НЕ БУДЗЕ.**

• Цягнікі рэгіянальных ліній эканамкласа і гарадскіх ліній адпраўленнем ад ст. Мінск-Пасажырскі ў перыяд работ будуць ісці да ст. Ждановічы і назад.

• Перавозка пасажыраў з/на цягнікі рэгіянальных ліній эканамкласа паміж станцыямі Ждановічы і Ратамка будзе аўтобусамі з прыпынкамі па запатрабаванні на аўтобусным прыпынку «Мінскае Мора».

• Праезд у аўтобусах – па чыгуначных білетах.

• Перавозка пасажыраў аўтобусамі з/на цягнікі гарадскіх ліній паміж станцыямі Ждановічы і Ратамка рабіцца не будзе

• Пераканаўча просім ад 18 да 21 лістапада 2019 года на перыяд работ ўстрымацца ад паездак чыгуначным транспартам на дадзеным участку.

• У выпадку неабходнасці паездкі просім вас улічыць, што яе працягласць у гэты дзень павялічыцца.

• Інфармацыю аб раскладзе руху цягнікоў удакладняйце, калі ласка, на станцыях, прыпыначных пунктах, у кантакт-цэнтры Беларускай чыгункі па тэлефоне 105, на сайце www.rw.by да пачатку паездкі.

| 18.11.2019 | | | |
|---|---|---|---|
| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ждановічы | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ратамка |
| 11.10 | 11.20 | 11.50 | 12.00 |
| 12.30 | 12.40 | 13.10 | 13.22 |
| 14.00 | 14.10 | 14.40 | 14.50 |
| 15.55 | 16.05 | 16.35 | 16.45 |
| 22.34 | 22.45 | 23.15 | 23.25 |
| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ратамка | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ждановічы |
| 12.15 | 12.25 | 12.55 | 13.05 |
| 14.15 | 14.25 | 14.55 | 15.05 |
| 16.14 | 16.25 | 16.55 | 17.05 |
| 22.49 | 23.00 | 23.30 | 23.40 |
| 23.36 | 23.45 | 00.15 (19.11.2019) | 00.35 (19.11.2019) |
| **19.11.2019** | | | |
| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ждановічы | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ратамка |
| 00.18 | 00.30 | 01.00 | 01.10 |
| 10.05 | 10.15 | 10.45 | 11.03 |
| 12.30 | 12.40 | 13.10 | 13.22 |
| 14.00 | 14.10 | 14.40 | 14.50 |
| 15.55 | 16.05 | 16.35 | 16.45 |
| 22.34 | 22.46 | 23.16 | 23.25 |
| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ратамка | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ждановічы |
| 10.45 | 11.01 | 11.31 | 11.42 |
| 12.15 | 12.25 | 12.55 | 13.05 |
| 14.15 | 14.25 | 14.55 | 15.05 |
| 16.14 | 16.25 | 16.55 | 17.05 |
| 22.49 | 23.00 | 23.30 | 23.40 |
| 23.36 | 23.45 | 00.15 (20.11.2019) | 00.35 (20.11.2019) |

| 20.11.2019 | | | |
|---|---|---|---|
| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ждановічы | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ратамка |
| 00.18 | 0.30 | 1.00 | 01.10 |
| 10.05 | 10.15 | 10.45 | 11.03 |
| 14.00 | 14.10 | 14.40 | 14.50 |
| 15.55 | 16.05 | 16.35 | 16.45 |
| 22.34 | 22.46 | 23.16 | 23.25 |
| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ратамка | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ждановічы |
| 10.45 | 11.01 | 11.31 | 11.42 |
| 14.20 | 14.30 | 15.00 | 15.10 |
| 16.14 | 16.25 | 16.55 | 17.05 |
| 22.49 | 23.00 | 23.30 | 23.40 |
| 23.36 | 23.45 | 00.15 (21.11.2019) | 00.35 (21.11.2019) |
| **21.11.2019** | | | |
| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ждановічы | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ратамка |
| 00.18 | 00.30 | 01.00 | 01.10 |
| 10.05 | 10.15 | 10.45 | 11.03 |
| 12.30 | 12.40 | 13.10 | 13.22 |
| 14.00 | 14.10 | 14.40 | 14.50 |
| 15.55 | 16.05 | 16.35 | 16.45 |
| 22.34 | 22.46 | 23.16 | 23.25 |
| **Прыбыццё цягнікоў** на станцыю Ратамка | **Адпраўленне аўтобусаў** ад станцыі Ратамка | **Прыбыццё аўтобусаў** на станцыю Ждановічы | **Адпраўленне цягнікоў** ад станцыі Ждановічы |
| 10.45 | 11.01 | 11.31 | 11.42 |
| 12.15 | 12.25 | 12.55 | 13.05 |
| 14.15 | 14.25 | 14.55 | 15.05 |
| 16.14 | 16.25 | 16.55 | 17.05 |
| 22.49 | 23.00 | 23.30 | 23.40 |

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 18.11.2019

| Маладзечна-Ратамка-Мінск | | | | Мінск-Ратамка-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **№ цягніка** | Час адпраўлення | Час прыбыцця | | **№ цягніка** | Час адпраўлення | Час прыбыцця | |
| **6102** | 04:15 | 06:00 | б.п.Селівонаўка | **6101** | 00:45 | 02:25 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |
| **6104** | 05:11 | 06:58 | | **6103** | 04:40 | 06:11 | б.п. Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі да Гудагая |
| **6106** | 05:34 | 07:22 | па рабочых днях | **7031** | 05:24 с Мінск П. | 06:53 | |
| **6108** | 05:48 | 07:34 | ад Гудагая ў 04:21 | **6105** | 05:26 | 07:10 | |
| **6110** | 06:47 | 08:44 | | **6107** | 06:25 | 08:20 | да Гудагая |
| **7032** | 07:14 | 08:28 | з прып.Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск П. | **6109** | 07:23 | 09:25 | |
| **6112** | 07:34 | 09:22 | ад Гудагая ў 06:00 | **6111** | 08:01 | 10:03 | назначаецца |
| **6114** | 09:11 | 11:08 | | **6113** | 08:48 | 10:46 | |
| **6116** | 09:54 | 11:29 | | **6115** | 09:46 | 11:40 | |
| **6120** | 10:55 | 12:15 | да ст. Ратамка | **6117** | 12:00 са ст.Ратамка | 13:22 | |
| **6122** | 12:52 | 14:15 | раней, чым па графіку да ст. Ратамка | | | | |
| **6124** | 14:53 | 16:14 | ад ст.Солы ў 13:35 да ст. Ратамка | **6119** | 13:22 со ст.Ратамка | 14:44 | |
| **6126** | 15:57 | 17:53 | раней, чым па графіку | **6121** | 14:50 ад ст.Ратамка | 16:10 | да Гудагая ў 16:12 |
| | | | | **6123** | 15:38 | адмена | |
| **6128** | 16:39 | 18:37 | раней, чым па графіку | **6125** | 16:45 со ст.Ратамка | 18:06 | да Гудагая |
| **6130** | 17:50 | 19:39 | | **6127** | 17:34 | 19:32 | |
| | | | | **7035** | 18:11 | 19:40 | Мінск–Маладзечна з прып. Мінск П., Масюк., п.п.Леб., Ждан., Фест., далей да Гудагая адпр.19:42, з прып. па ст. і п.п.Заскавічы,і п.п. Маладзёжны, Каменка |
| **6132** | 19:21 | 21:07 | | | | | |
| **7034** | 19:50 | 21:17 | з прып. па станцыях і п.п. Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск П. | **6129** | 18:25 | 20:32 | да Гудагая ў 20:45 |
| **6136** | 20:33 | 22:27 | | **6131** | 19:40 | 21:35 | да ст. Солы па станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны да ст.Солы адпр. 21:48 |
| **6196** | 21:28 | 22:49 | да ст. Ратамка з усімі прыпынкамі | **6133** | 20:44 | 22:38 | |
| **6138** | 22:22 | 23:36 | ад Гудагая б.п. Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае Крыжоўка да ст. Ратамка | **6135** | 23:25 со ст.Ратамка | 00:42 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |

**Маладзечна-Глыбокае:** адпр. ад ст.Маладзечна **20:46**, прыб. на ст.Глыбокае **23:32**
**Маладзечна-Солы:** адпр. ад ст.Маладзечна **21:48**, прыб. на ст.Солы **22:37**
**Маладзечна– Гудагай:** адпр. ад ст.Маладзечна **16:12**, прыб. на ст.Гудагай **17:35**;
адпр. ад ст.Маладзечна **19:42**, прыб. на ст.Гудагай **20:51**;
адпр. ад ст.Маладзечна **20:45**, прыб. на ст.Гудагай **22:08**

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 19.11.2019

| Маладзечна-Ратамка-Мінск | | | | Мінск-Ратамка-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **№ цягніка** | Час адпраўлення | Час прыбыцця | | **№ цягніка** | Час адпраўлення | Час прыбыцця | |
| **6102** | 04:15 | 06:00 | б.п.Селівонаўка | **6101** | 01:10 ад ст.Ратамка | 02:25 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |
| **6104** | 05:13 | 07:00 | | **6103** | 05:00 | 06:37 | б.п. Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі да Гудагая 06:42 |
| **6106** | 05:34 | 07:25 | па рабочых днях | **7031** | 05:24 ад Мінск П. | адмена | |
| **6108** | 05:48 | 07:39 | ад Гудагая ў 04:21 | **6105** | 05:26 | 07:19 | |
| **6110** | 06:47 | 08:44 | | **6107** | 06:25 | 08:20 | да Гудагая 08:44 |
| **7032** | 07:14 | 08:31 | з прып. Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск П. | **6109** | 07:31 | 09:29 | |
| **6112** | 07:34 | 09:22 | ад Гудагая ў 06:00 | **6111** | 08:08 | 10:03 | назначаецца |
| **6114** | 09:11 | 10:45 | да ст. Ратамка | **6113** | 08:48 | 11:03 | |
| **6116** | 09:54 | адмена | | **6115** | 09:46 | адмена | |
| **6120** | 10:55 | 12:15 | да ст. Ратамка | **6117** | 11:17 | адмена | |
| **6122** | 12:52 | 14:15 | раней, чым па графіку да ст. Ратамка | **6771** | 11:03 ад ст.Ратамка | 12:32 | назначаецца |
| **6124** | 14:53 | 16:14 | ад ст.Солы ў 13:35 да ст. Ратамка | **6119** | 13:22 ад ст.Ратамка | 14:52 | |
| **6126** | 15:57 | 17:53 | раней, чым па графіку | **6121** | 14:50 ад ст.Ратамка | 16:10 | да Гудагая 16:12 |
| | | | | **6123** | 15:38 | адмена | |
| **6128** | 16:47 | 18:45 | | **6125** | 16:45 ад ст.Ратамка | 18:06 | да Гудагая |
| **6130** | 17:50 | 19:38 | | **6127** | 17:34 | 19:32 | |
| | | | | **7035** | 18:11 | 19:40 | Мінск–Маладзечна з прып. Мінск П., Масюк., п.п.Леб., Ждан., Фест., далей да Гудагая адпр.19:42 з прып. па ст. і п.п.Заскавічы, Маладзёжны, Каменка |
| **6132** | 19:21 | 21:07 | | | | | |
| **7034** | 19:50 | 21:17 | з прып. па станцыях і п.п. Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск П. | **6129** | 18:25 | 20:32 | да Гудагая ў 20:45 |
| **6136** | 20:33 | 22:27 | | **6131** | 19:40 | 21:35 | да ст. Солы па станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны да ст.Солы адпр. 21:48 |
| **6196** | 21:28 | 22:49 | да ст. Ратамка з усімі прыпынкамі | **6133** | 20:44 | 22:38 | |
| **6138** | 22:22 | 23:36 | ад Гудагая б.п. Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка да ст. Ратамка | **6135** | 23:25 ад ст.Ратамка | 00:42 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |

**Маладзечна-Глыбокае:** адпр. ад ст.Маладзечна **20:46**, прыб. на ст.Глыбокае **23:32**
**Маладзечна-Солы:** адпр. ад ст. Маладзечна **12:06**; прыб. на ст Солы **13:06**;
адпр.ад ст.Маладзечна **21:48**, прыб. на ст.Солы **22:37**
**Маладзечна-Гудагай:** адпр. ад ст.Маладзечна **06:42**, прыб.на ст.Гудагай **08:06**
адпр.ад ст.Маладзечна **08:44**, прыб. на ст.Гудагай **10:07**
**Гудагай-Мінск:** адпр. ад ст.Гудагай **08:33**, прыб. на ст. Маладзечна **09:52**
**назначаецца** ў шляхі зносін **Гудагай-Маладзечна**

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 20.11.2019

| Маладзечна-Ратамка-Мінск | | | | Мінск-Ратамка-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цяг-ніка | Час ад-праўлен-ня | Час пры-быцця | | № цяг-ніка | Час ад-праўлен-ня | Час пры-быцця | |
| 6102 | 04:15 | 06:00 | б.п.Селівонаўка | 6101 | 01:10 ад ст.Ра-тамка | 02:25 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | 05:13 | 07:00 | | 6103 | 05:00 | 06:37 | б.п. Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі да Гудагая 06:42 |
| 6106 | 05:34 | 07:25 | па рабочых днях | 7031 | 05:24 з Мін.П. | адмена | |
| 6108 | 05:48 | 07:39 | ад Гудагая | 6105 | 05:26 | 07:19 | |
| 6110 | 06:47 | 08:44 | | 6107 | 06:25 | 08:20 | да Гудагая 08:44 |
| 7032 | 07:14 | 08:31 | з прып. Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск П. | 6109 | 07:31 | 09:29 | |
| 6112 | 07:34 | 09:22 | ад Гудагая | 6111 | 08:08 | 10:03 | назначаецца |
| 6114 | 09:11 | 10:45 | да ст. Ратамка | 6113 | 08:48 | 11:03 | |
| 6116 | 09:54 | адмена | | 6115 | 09:46 | адмена | |
| 6120 | 10:55 | адмена | | 6117 | 11:17 | адмена | |
| 6122 | 12:40 | 14:20 | раней, чым па графіку да ст. Ратамка | 6771 | 11:03 ад ст.Ра-тамка | 12:32 | назначаецца |
| 6124 | 14:53 | 16:14 | ад ст.Солы ў 13:35 да ст. Ратамка | 6119 | 12:59 | адмена | |
| 6126 | 15:57 | 17:53 | раней, чым па графіку | 6121 | 14:50 ад ст.Ра-тамка | 16:10 | да Гудагая адпр. 16:12 |
| | | | | 6123 | 15:38 | адмена | |
| 6128 | 16:47 | 18:45 | | 6125 | 16:45 ад ст.Ра-тамка | 18:06 | да Гудагая |
| 6130 | 17:50 | 19:38 | | 6127 | 17:34 | 19:32 | |
| | | | | 7035 | 18:11 | 19:40 | Мінск–Маладзечна з прып. Мінск П., Масюк., п.п.Леб., Ждан., Фест., далей да Гудагая адпр.19:42 з прып. па ст. і п.п.Заскавічы, Маладзёжны, Каменка |
| 6132 | 19:21 | 21:07 | | | | | |
| 7034 | 19:50 | 21:17 | з прып. па станцыях і п.п. Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск П. | 6129 | 18:25 | 20:32 | да Гудагая ў 20:45 |
| 6136 | 20:33 | 22:27 | | 6131 | 19:40 | 21:35 | да ст. Солы по станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны да ст.Солы адпр. 21:48 |
| 6196 | 21:28 | 22:49 | да ст. Ратамка з усімі пры-пынкамі | 6133 | 20:44 | 22:38 | |
| 6138 | 22:22 | 23:36 | ад Гудагая б.п. Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае Крыжоўка да ст. Ратамка | 6135 | 23:25 ад ст.Ра-тамка | 00:42 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |

**Маладзечна-Глыбокае:** адпр.ад ст.Маладзечна **20:46**, прыб.на ст.Глыбокае **23:32**
**Маладзечна-Солы:** адпр. ад ст.Маладзечна **12:06**; прыб. на ст. Солы **13:06**;
адпр.ад ст. Маладзечна **21:48**, прыб. на ст.Солы **22:37**
**Маладзечна-Гудагай:** адпр. ад ст.Маладзечна **06:42**, прыб. на ст.Гудагай **08:06**
**Гудагай-Мінск:** адпр. ад ст.Гудагай **08:33**, прыб. на ст. Маладзечна **09:52**
**назначаецца** ў шляхі зносін **Гудагай-Маладзечна**

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа 21.11.2019

| Маладзечна-Ратамка-Мінск | | | | Мінск-Ратамка-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цяг-ніка | Час ад-праўлен-ня | Час пры-быцця | | № цяг-ніка | Час ад-праўлен-ня | Час пры-быцця | |
| 6102 | 04:15 | 06:00 | б.п.Селівонаўка | 6101 | 01:10 ад ст.Ра-тамка | 02:25 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | 05:13 | 07:00 | | 6103 | 05:00 | 06:37 | б.п. Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі да Гудагая 06:42 |
| 6106 | 05:34 | 07:25 | па рабочых днях | 7031 | 05:24 ад Мінск П. | адмена | |
| 6108 | 05:48 | 07:39 | ад Гудагая | 6105 | 05:26 | 07:19 | |
| 6110 | 06:47 | 08:44 | | 6107 | 06:25 | 08:20 | да Гудагая 08:44 |
| 7032 | 07:14 | 08:31 | з прып. Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск П. | 6109 | 07:31 | 09:29 | |
| 6112 | 07:34 | 09:22 | ад Гудагая | 6111 | 08:08 | 10:03 | назначаецца |
| 6114 | 09:11 | 10:45 | да ст. Ратамка | 6113 | 08:48 | 11:03 | |
| 6116 | 09:54 | адмена | | 6115 | 09:46 | адмена | |
| 6120 | 10:55 | 12:15 | да ст. Ратамка | 6117 | 11:17 | адме-на | |
| 6122 | 12:52 | 14:15 | раней, чым па графіку да ст. Ратамка | 6771 | 11:03 ад ст.Ра-тамка | 12:32 | назначаецца |
| 6124 | 14:53 | 16:14 | ад ст.Солы ў 13:35 да ст. Ратамка | 6119 | 13:22 ад ст.Ра-тамка | 14:52 | |
| 6126 | 15:57 | 17:53 | раней, чым па графіку | 6121 | 14:50 ад ст.Ра-тамка | 16:10 | да Гудагая адпр. 16:12 |
| | | | | 6123 | 15:38 | адмена | |
| 6128 | 16:47 | 18:45 | | 6125 | 16:45 ад ст.Ра-тамка | 18:06 | да Гудагая |
| 6130 | 17:50 | 19:38 | | 6127 | 17:34 | 19:32 | |
| | | | | 7035 | 18:11 | 19:40 | Мінск–Маладзечна з прып. Мінск П., Масюк., п.п.Леб., Ждан., Фест., далей да Гудагая адпр.19:42 з прып. па ст. і п.п.Заскавічы, Маладзёжны, Каменка |
| 6132 | 19:21 | 21:07 | | | | | |
| 7034 | 19:50 | 21:17 | з прып. па станцыях і п.п.Фест., Ждан., Леб., Масюк., Мінск П. | 6129 | 18:25 | 20:32 | да Гудагая ў 20:45 |
| 6136 | 20:33 | 22:27 | | 6131 | 19:40 | 21:35 | да ст. Солы па станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны да ст.Солы адпр. 21:48 |
| 6196 | 21:28 | 22:49 | да ст. Ратамка з усімі прыпынкамі | 6133 | 20:44 | 22:38 | |
| 6138 | 22:22 | адмена | | 6135 | 23:25 ад ст.Ра-тамка | 00:42 | б.п. Татаршчызна, Селівонаўка |

**Маладзечна-Глыбокае:** адпр.ад ст.Маладзечна **20:46**, прыб.на ст.Глыбокае **23:32**
**Маладзечна-Солы:** адпр.ад ст. Маладзечна **12:06**; прыб. на ст. Солы **13:06**;
адпр.ад ст. Маладзечна **21:48**, прыб. на ст.Солы **22:37**
**Гудагай-Мінск:** адпр.ад ст.Гудагай **08:33; 21:09**, прыб. на ст.Маладзечна **09:52; 22:20**
назначаецца ў шляхі зносін **Гудагай-Маладзечна**

# У смерці 22-гадовага работніка вінаваты начальнік

**СМАРГОНЬ**

**Следчыя завяршылі расследаванне справы аб парушэнні правілаў аховы працы, што пацягнула смерць мужчыны ў Смаргоні.**

Па дадзеных следства, сёлета 23 мая на тэрыторыі дрэваапрацоўчага прадпрыемства ў Смаргоні пры рамонце канвеера быў смяротна траўмаваны 22-гадовы слесар па рамонце і абслугоўванні абсталявання.

**Следчыя ўстанавілі, што пры выкананні работ інжынер-механік дапусціў парушэнні правілаў аховы працы і тэхнікі бяспекі, службовай інструкцыі, якія пацягнулі па неасцярожнасці смерць слесара.**




Канвеер, на якім падчас працы загінуў 22-гадовы слесар.

Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, на прадпрыемстве адсутнічала распрацаваная тэхналагічная дакументацыя на выкананне рамонтных работ абсталявання, а самі работнікі неаднаразова парушалі ўнутраныя інструкцыі.

Па выніках расследавання УСК па Гродзенскай вобласці прад'яўленае абвінавачанне інжынеру-механіку па ч.2 ст.306 Крымінальнага кодэкса (парушэнне правілаў аховы працы, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека).

Да яго ўжытая мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе і належных паводзінах.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## За выхадныя пад электрычкай «Мінск-Маладзечна» загінулі два чалавекі

**МАЛАДЗЕЧНА**

7 і 9 лістапада пад электрычкай «Мінск-Маладзечна» загінулі два чалавекі.

Першае здарэнне адбылося ў 11:46 на перагоне Ратамка – Крыжоўка. Электрычка збіла 81-гадовага пенсіянера з Мінска. Устанавілі, што мужчына пераходзіў пуці па насціле перад цягніком, які набліжаўся. Ад атрыманых траўмаў жыхар сталіцы памёр на месцы.

Праз дзень, у 18:39, электрычка «Мінск-Маладзечна» наехала на жанчыну на станцыі Крыжоўка. Траўма аказалася смяротнай.

**Паводле МУС.**

## Маладзечанец скраў пральны парашок

**МАЛАДЗЕЧНА**

Падазраванага ў рабаўніцтве затрымалі па гарачых слядах маладзечанскія аператыўнікі.

7 лістапада загадчык магазіна ў вёсцы Дубрава патэлефанавала ў міліцыю, паведамляе прэс-сакратар МУС Беларусі. Яна распавяла, што невядомы мужчына адкрыта скраў з прылаўка пачак пральнага парашку і збег. Работнік крамы спрабавала спыніць наведніка, але не змагла.

На месца здарэння прыехала следча-аператыўная група. Яны вывучылі запісы з камер відэаназірання, убачылі зламысніка. Падазраваным стаў 42-гадовы беспрацоўны жыхар Мінска, раней судзімы за маёмасныя злачынствы.

Праз некалькі гадзін падазраванага затрымалі ў сваякоў у суседняй вёсцы. Падчас затрымання ён быў нецвярозы. Міліцыянеры знайшлі ў доме скрадзены пральны парашок. Ён быў ужо распакаваны.

Мужчыну арыштавалі. У яго дзеяннях бачаць злачынствы, прадугледжаныя артыкулам «Рабаўніцтва». Санкцыя артыкула прадугледжвае пакаранне да чатырох год пазбаўлення свабоды.

**Аддзел інфармацыі.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Опель-Астра F, 1995 г.в., 1,6 бензін, шэры металік, універсал, ТА, страхоўка, 1750 рублёў. Т. (8-044) 4861355.

• Фольксфаген-Пасат Б-3, універсал, 1990 г.в., д.1,9. Т. (8-033) 3137628.

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Дыскі-штампоўкі (жалеза) R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford Escort, 55 руб. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort 6 (1995-2000): дзверы ў зборы, капот, фара, заднія фары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724.*

• Аўто легкавое, грузавое, бус. Можна аварыйныя. Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Аляхновічах па вул. Маладзёжнай, д.22, 42 кв. м, 2 паверх 5-павярховага дома, 2013 г.п., з еўрарамонтам. Т. (8-029) 7668199.*

• 1-пакаёвую кватэру нядорага. Т. (8-029) 6525690.

• 2-пакаёвая кватэра ў а.г. Аляхновічы па вул. Маладзёжнай, д.10, 54 кв. м, 1 паверх 5-павярховага дома, цалкам гатовая да пражывання. Т. (8-029) 7668199.*

• 2-пакаёвая светлая кватэра ў Маладзечне з рамонтам і мэбляй у выдатным раёне, 51,1/28,5; 8,8; 6/9. Т. (8-029) 3997088.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом 9х8 на перанос. Пліта настольная газавая, рэдуктар, балон. Крывічы. Т. (8-01797) 43397.

### КУПЛЮ

• Участак са старым домам у Вілейцы. Т. (8-033) 3359650 МТС, Аляксандр.*

### НАЙМУ

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, тэрмінова. Тэл. (8-033) 6451110.

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайныя фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выканаем дахавыя работы любой складанасці. Гарантыя. ІП Дзядкоў С.Л. УНП 692241524. Т.(8-029) 2737650.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, маніتораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Сталяр-цясляр, лесвіцы, лазня, дамы, матэрыялы. ІП Кароль М.Ф. УНП 690689147. Т. (8-029) 6937096.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова дойная, 5 год. Т. (8-029) 6393772.*

**Іншае**

• Балон, торфабрыкет, тачка будаўнічая, памперсы для дарослых, крэсла. Т. (8-029) 7060485.*

• Дровы (абрэзкі), сасна, елка, 20-25 см, 10 куб.м, 25 рублёў за 1 куб.м. Дровы яблыні, 10 куб. м, 50 рублёў за 1 куб. м. Т. (8-044) 5770044.*

• Дровы нядорага, дастаўка бясплатная. Т. (8-029) 6106061.

• Дровы. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2572438.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Цыскі, можна няспраўныя. Т. (8-029) 8794563.*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |



Падчас спаборніцтваў.

# У Маладзечне зладзілі конкурс сантэхнікаў

МАЛАДЗЕЧНА

**12 лістапада ў рэсурсным цэнтры Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа адбыліся адборачныя спаборніцтвы абласнога этапу рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства WorldSkills Belarus 2020 па прафесійнай кампетэнцыі «Сантэхніка і ацяпленне».**



У экспертнай групе працавалі галоўны інжынер таварыства «БудТрастСэрвіс» **Вадзім Матусевіч**, дырэктар таварыства «Навучальны Цэнтр Тэхнар» **Дзмітры Крупянькоў**, прараб таварыства «Еўра-Інжынерынг» **Віталь Вашняровіч**, мантажнік санітарна-тэхнічных сістэм і абсталявання «ЦеплаЭнергаСіла» **Ілля Траццяк**.

Удзельнікі спаборніцтва цягам шасці гадзін выконвалі конкурснае заданне, якое складалася з модуляў «Сантэхніка» і «Ацяпленне». Навучэнцы па рысунку будавалі гатовы да прымянення сантэхнічны макет інжынерных сістэм з падключаным ацяпляльным прыборам. Таксама ўсталёўвалі і падключалі ўнітаз і ўмывальнік.

Па ўмовах задання ўвесь сантэхнічны макет павінны быў падключаны да стаяковай сістэмы каналізацыі і водаправода. Мантаж, устаноўку і падключэнне выконвалі на рабочых стэндах.

Эксперты размеркавалі прызавыя месцы наступным чынам.

1 месца – **Яўген Гайбута** з Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа.

2 месца – **Міхаіл Мамантаў** з Салігорскага дзяржаўнага каледжа.

3 месца – **Станіслаў Пракаповіч** з Чэрвеньскага прафесійнага будаўнічага ліцэя.

Удзел у рэспубліканскім конкурсе прафесійнага майстэрства WorldSkills Belarus 2020 можа стаць выдатным стартам для будучай кар'еры.

**Валянціна МІХАЙЛОЎСКАЯ, загадчык рэсурснага цэнтра Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа. Фота аўтара.**

# Хто адзяваў вайскоўцаў у Трэцім рэйху

**Чорныя кіцелі з рунамі і чарапамі на каўнярах, галіфэ, карычневыя сарочкі. Заводы Х'юга Боса ад 1930-х адзявалі ў гэту ўніформу галоўныя структуры Трэцяга рэйха: службу бяспекі (СД), штурмавыя атрады (СА), вафен-СС, вермахт і Гітлерюгенд.**



Фота blog.mainwoman.co.

Hugo Boss выпускае адзенне і сёння.

### Ад краўца да буйнога прадпрымальніка

Х'юга Фердынанд Бос нарадзіўся ў 1885 годзе. Ён быў краўцом і з жонкай Луізай валодаў крамай адзення ў Метцынгене. Бізнес застаўся ў яго пасля смерці братоў і сясцёр ад бацькоў – яго абралі спадчыннікам. У 1924 годзе адкрыў завод сумесна з двума іншымі вытворцамі. У першыя гады на заводзе працавала да 30 работнікаў. Там выраблялі ўсе віды адзення ўручную – ад футболак да традыцыйных паўднёвых нямецкіх куртак.

Адна з першых буйных партый адзення кампаніі прызначалася для Рудольфа Борна. Борну пастаўлялі з завода Боса знакамітыя карычневыя сарочкі для нацыянал-сацыялістычнай партыі. А ўжо з сярэдзіны 1930-х гадоў ён рэкламаваў сваю кампанію як «пастаўшчыка партыйнага адзення ад 1924 года».

У 1931 годзе фабрыцы Х'юга Боса ўвогуле пагражала банкруцтва з-за сусветнага фінансавага крызісу. Праз крызіс у Германіі скарацілася вытворчасць, беспрацоўнымі былі дзевяць мільёнаў чалавек. У тым жа годзе Бос стаў членам нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі (НСДАП), якой завод рабіў уніформу, а ўступленне ў партыю дапамагло кампаніі ў фінансавым плане. Нямецкая тэкстыльная прамысловасць, якая пацярпела ад сусветнай рэцэсіі, павольна аднаўлялася ад 1933 года.

### «Х'юга Бос» і выраб адзення падчас Трэцяга рэйха

Да 1938 года ў «Х'юга Бос» выраблялі форму СД, СА, СС і Гітлерюгенда. У 1938 годзе ўсё змянілася: кампанія падпісала кантракт на вытворчасць армейскай уніформы для вермахта.

У 1932-м бізнес Боса прыносіў каля 50 тысяч рэйхсмарак (2,3 млн. долараў) у год. Пасля кантракта з вермахтам прыбытак павялічыўся больш чым у 10 разоў – 600 тысяч рэйхсмарак (27 млн. долараў). Да 1942-га гадавы абарот кампаніі пастаянна рос і склаў крыху больш за мільён рэйхсмарак (46 млн. долараў).

Падчас Другой сусветнай вайны кампанія ў асноўным шыла абмундзіраванне для вермахта і для СС. У 1944 годзе яна перадыслакавалася і не магла вырабляць шмат уніформы. Аднак у пачатку 1945 года мела замовы ад СС.

У цэлым кампанія Х'юга Боса істотна вырасла падчас існавання Трэцяга рэйха, хаця ў той час так і не ператварылася ў буйную карпарацыю. Па словах гісторыка **Рамана Кёстэра**, няма ніякіх прыкмет таго, што кампанія «Х'юга Бос» іграла вядучую ролю ў сектары лёгкай прамысловасці.

### Прымусовая праца на заводах Боса

Падчас Другой сусветнай вайны Х'юга Бос наняў 140 прымусовых рабочых, пераважна жанчын. Завод яго быў трэцім па велічыні прымусовай рабочай сілы ў Метцынгене. Сярод 140 супрацоўнікаў працавалі 40 французаў – гэта ваеннапалонныя, яны былі ў кампаніі на працягу кастрычніка 1940 – красавіка 1941-га.

Попыт на форму павялічыўся ў 1930-я, а бізнес Боса пацярпеў ад сур'ёзнага недахопу супрацоўнікаў. Кампанія ўжо сутыкнулася з праблемамі кадравай работы ў самым пачатку вайны, калі работнікі пераходзілі ў больш высокааплатныя галіны, такія як машынабудаванне.

Першыя прымусовыя рабочыя пачалі працаваць на прадпрыемстве ў красавіку 1940 года. У гэты момант некалькі тэкстыльных прадпрыемстваў з паўднёва-заходняй Германіі аб'ядналі намаганні па наборы персаналу з Бельска ў Польшчы. Рабочых прыганялі пры падтрымцы гестапа.

### Якія ўмовы жыцця былі для прымусовых рабочых?

Да 1943 года мужчыны жылі ў хлявах ва ўласным лагеры кампаніі. Умовы там былі самыя простыя, але гігіенічныя. Жанчыны жылі з мясцовымі сем'ямі. Гэта змянілася пасля пабудовы спецыяльнага лагера для работнікаў Усходняй Еўропы ў пачатку 1943 года. Лагер аддзяліў прымусовых рабочых ад мясцовых жыхароў. Гэты новы лагер сутыкнуўся з сур'ёзнымі фінансавымі цяжкасцямі: пагоршыўся ўзровень гігіены, харчаванне было дрэннае. Х'юга Бос спрабаваў палегчыць сітуацыю ў пачатку 1944 года – даваў ежу работнікам у сталовай кампаніі.

Ёсць звесткі пра тое, як кіраўніцтва абыходзілася з рабочымі. Адданыя нацыянал-сацыялісты абыходзіліся з жанчынамі вельмі жорстка і пагражалі ім канцлагерамі. Як кажа Кёснэр, Бос, хутчэй за ўсё, асабіста не ўдзельнічаў у інцыдэнтах. Аднак ён не прыняў ніякіх дзеянняў, каб спыніць гэта.

Умовы, з якімі сутыкнуліся работнікі кампаніі «Х'юга Бос» заставаліся ўмовамі прымусовых рабочых. Яны не выбіралі сабе працу, якую выконвалі, а пачынаючы з 1943-га жылі ў спецыяльным лагеры. Яны таксама павінны былі працаваць 12 гадзін у дзень (хаця гэта датычылася і звычайных нямецкіх супрацоўнікаў).

**Кампанія не размяшчала сваіх работнікаў у спецлагеры, таму што ўмовы там уплывалі на іх працаздольнасць. Гэта не азначае, што прымусовыя работнікі атрымлівалі асалоду ад гэтага ладу жыцця.**

Вядома гісторыя работніцы Юзэфы Гістэрэк. Яна была адной з тых, хто памёр падчас працы на Х'юга Боса. Юзэфа Гістэрэк прыехала з Польшчы і працавала на заводзе ад кастрычніка 1941 года. Была сястрой адной з работніц – Ганны, якую прывезлі ў Метцынген на год раней. Іх бацька напісаў ім з просьбай дапамагчы: у Польшчы заставаліся яшчэ восем дзяцей з іх сям'і. Запыт адхілілі – Юзэфа недастаткова доўга працавала на кампанію.

Дзяўчына ўсё адно паехала да бацькі, а яе арыштавала гестапа. Яе трымалі ў некалькіх лагерах, у тым ліку Асвенцыме і Бухенвальдзе. Х'юга Бос дазнаўся пра арышт Гістэрэк праз паўтара года і звярнуўся ў НСДАП, каб вярнуць яе на завод. З Юзэфы хацелі зрабіць прыклад для іншых работнікаў. Праз нейкі час яна перажыла нервовы зрыў. Тады ёй далі спецыяльны дазвол на адпачынак на тры месяцы. Напрыканцы гэтага перыяду, калі яна павінна была вярнуцца на працу, Гістэрэк скончыла жыццё самагубствам у доме сям'і, дзе гасціла. Бос аплаціў пахаванне і пакрыў транспартныя выдаткі членаў сям'і, якія прысутнічалі на ім.

У пасляваенны час у працэсе дэнацыфікацыі Х'юга Бос заявіў, што далучыўся да партыі, таму што яму абяцалі дапамогу ў сувязі з беспрацоўем і фінансавым крызісам у Германіі ў той час. Кёстэр адзначае, што нельга інтэрпрэтаваць каментары Боса аднабакова. Па словах гісторыка, Х'юга Бос быў лаяльным да НСДАП. Кампанія «Х'юга Бос» упершыню прызнала сувязь з нацыстамі ў 1997 годзе. А ў 2011 годзе на яе сайце размясцілі афіцыйную заяву з прабачэннямі за свае дзеянні ў 1930-1940-я гады.

Кіцелі, мундзіры, шынялі, галаўныя ўборы вайскоўцаў нямецкіх узброеных сіл можна паглядзець у калекцыі музея Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Паэт з Вілейкі – лаўрэат літаратурнай прэміі Максіма Багдановіча

ВІЛЕЙКА

Прэмію ўручаць жыхару Вілейкі, паэту, педагогу **Уладзіміру Цанунiну**.

На абласны літаратурны конкурс, які праводзіць Мінаблвыканкам раз на два гады, падалі 24 творы. Шэсць з іх сталі пераможцамі. У ліку лаўрэатаў – вiляйчанiн са сваім зборнікам паэзіі.

**– Я ўжо і забыўся, што мае творы намінавалі на прэмію. Было гэта прыкладна год таму, – расказаў карэспандэнту Уладзімір Цанунін.**

Творы паэта з Вілейкі падаваліся і на Нацыянальную літаратурную прэмію. «Але я на яе і не разлічваў», – прызнаецца паэт.

**Кажа, што не менш за прэмію важна тое, што яго вершы пераклалі на польскую мову і змясцілі ў зборніку «Масты «Мінск-Варшава».**

Нагадаем, што Уладзімір Цанунін неаднойчы станавіўся героем нашых публікацый і ўдзельнічаў у круглым стале ў рэдакцыі на тэму сучаснай літаратуры.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## 14 лістапада – Сусветны дзень якасці

Якасць і бяспека тых тавараў, што рэалізуюць у Беларусі, – адно з пытанняў, якое стаіць на асобым кантролі ў дзяржавы.

Сёлета Сусветны дзень якасці адзначалі 14 лістапада. У Беларусі Еўрапейскі тыдзень якасці пачаўся 11 лістапада і працягнецца да 17. Тыдзень ладзяць пад дэвізам «Зробім якасць зноў высокай».

Інспекцыя Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску пастаянна працуе над выяўленнем тавараў, якія не адпавядаюць устаноўленым заканадаўствам патрабаванням да якасці і бяспекі.

Пры правядзенні кантрольна-наглядных мерапрыемстваў сёлета ў жніўні-верасні два гандлёвыя аб'екты прадавалі святлодыёдныя акумулятарныя ліхтары-свяцільнікі з сонечнай панэллю і святлодыёдныя акумулятарныя налобныя ліхтары гандлёвай маркі «FAZA» мадэлі Accu, настольныя свяцільнікі гандлёвай маркі «ЭРА» мадэлі N-211, якія не адпавядаюць патрабаванням тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза «Аб бяспецы нізкавольтнага абсталявання» па патрабаваннях бяспекі.

Канструкцыя налобных ліхтароў, ліхтароў і свяцільнікаў «ЭРА» не забяспечвала неабходную абарону спажыўца ад уздзеяння электрычнага току, сячэнне правадоў свяцільніка было ў чатыры разы меншае, чым устаноўленае нормай.

**Такія асаблівасці вырабаў могуць прывесці да празмернага нагрэву іх частак. З-за гэтага можа здарыцца пажар. Дзяржстандарт забараніў увоз і абарачэнне на рынку гэтай прадукцыі.**

Усе забароны і яшчэ іншую карысную інфармацыю можна паглядзець на сайце Дзяржстандарту ў раздзеле «Рэестры»: * адзіны рэестр выдадзеных сертыфікатаў адпаведнасці і зарэгістраваных дэкларацый аб адпаведнасці; * рэестр небяспечнай прадукцыі, забароненай да ўвозу і абарачэння на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь; * рэестр Нацыянальнай сістэмы пацвярджэння адпаведнасці.

Паважаныя спажыўцы, заўсёды набывайце якасныя і бяспечныя тавары.

**Дзмітрый БАНЦАРЭВІЧ,**
**галоўны дзяржінспектар аддзела дзяржнагляду (Маладзечна) інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску.**

## Усталёўваюць лаўкі з гербамі ўсіх раёнаў Гродзеншчыны

СМАРГОНЬ

Работы па ўстаноўцы лавак на пешаходным бульвары па вуліцы Савецкай у Смаргоні пачаліся раніцай 6 лістапада.

Гэты аб'ект рэканструяваўся ў рамках падрыхтоўкі Смаргоні да абласнога фестывалю-кірмашу «Дажынкі-2019», які пройдзе тут 23 лістапада.

**Настасся УТКІНА.**



Балонскі ўніверсітэт –найстарэйшы ў свеце.

# Пётр Краўчанка: «Ганаруся, што мы з Гусоўскім – калегі»

## Дэлегацыя з Беларусі наведала Італію

**У кастрычніку беларуская дэлегацыя наведала Італію. У Балонскі ўніверсітэт беларусы прыехалі на перамовы па захаванні памяці паэта-лацініста Міколы Гусоўскага. Узначальваў дэлегацыю першы міністр замежных спраў Беларусі, дыпламат, чалавек, які мае вілейскія карані, Пётр Краўчанка.**

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Пра сваю паездку і важнасць асобы Міколы Гусоўскага для Беларусі і для сябе Пётр Кузьміч расказаў чытачам «Рэгіянальнай газеты».

### Пілі чай з нашчадкамі Радзівілаў

– Кастрычніцкая паездка была багатай на дзелавыя сустрэчы і экскурсіі. Рыхтавалі і адкрывалі выставу беларускіх мастакоў «Дыялог цывілізацый». Падчас адкрыцця выставы выступалі маладзечанцы – вакалістка Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінкага **Кацярына Купрыеўская**, выкладчык **Таццяна Сарока**, сцэнарыст і вядучая **Таццяна Шкурынава**.

На пачатку падарожжа дэлегацыя наведала базіліку ў Сан-Клементэ. Як расказаў суразмоўца, базіліка знакамітая тым, што ў ёй знаходзіцца прах святога Кірыла – таго самага, што ў дзявятым стагоддзі вынайшаў кірыліцу. Гэта графіка пісьма, якой карыстаюцца сем славянскіх народаў – беларусы, украінцы, сербы, балгары, македонцы, рускія, чарнагорцы.

Запомнілася беларусам і чаяванне з нашчадкамі беларускіх князёў Радзівілаў – **Дыянай Караба** і яе мужам – вядомым італьянскім адвакатам **Фердынандам Караба**. Падчас сустрэчы абмеркавалі пытанні пра пошук і перадачу Нясвіжскаму замку аўтэнтычных рэчаў, якія раней належалі роду Радзівілаў.

### Італьянскаму прафесару падарылі шклянога зубра

– Важнай падзеяй была сустрэча з рэктарам Балонскага ўніверсітэта прафесарам **Франчэска Уберціні**. Гэты ўніверсітэт – найстарэйшая ў свеце навучальная ўстанова. Яе заснавалі ў 1088 годзе. Ад імя навуковай грамадскасці і творчай інтэлігенцыі Беларусі мы перадалі ў якасці дару ўнікальнае факсімільнае 22-томнае выданне Біблії Францыска Скарыны, выдадзенае ў 1517-1518 гадах у Празе. З улікам таго, што Мікола Гусоўскі быў не толькі сучаснікам, але і ў пэўнай ступені паслядоўнікам Скарыны, наш падарунак успрынялі з непадробнай цікавасцю і ўдзячнасцю, – расказаў Пётр Кузьміч.

Прафесару Уберціні падарылі шклянога зубра і першае выданне паэмы «Песня пра зубра» на лацінскай, беларускай і рускай мовах.

### Зрабілі сенсацыйныя адкрыцці пра жыццё Міколы Гусоўскага

Наведалі і бібліятэку Балонскага ўніверсітэта, папрацавалі ў балонскім архіве. Вывучалі Libro segreto del collegio – архіўныя дакументы канца 15 і 16 стагоддзяў. У іх – кароткая анатацыя дыпломных прац, а таксама магістарскіх і доктарскіх дысертацый.

– Мы знайшлі і пераклалі з лацінскай важныя дакументы, якія абвяргаюць ранейшае ўяўленне пра жыццё Гусоўскага ў Італіі. Раней лічылі, што ў Балонскім універсітэце Гусоўскі прабыў нядоўгі час. Але дакументы даказваюць, што наш зямляк доўга выкладаў у гэтым універсітэце і абараніў тут доктарскую дысертацыю па медыцыне 14 мая 1521. Паведамляецца, што ў гэты дзень абараніўся Nicolaus Albinus Polonus Lituanus. Вельмі магчыма, што гэта якраз і быў Мікола Гусоўскі.

Пётр Краўчанка перакананы, што новыя даследаванні паказваюць прынцыпова новую карціну жыцця і навуковай дзейнасці Міколы Гусоўскага ў Балонні і носяць сенсацыйны характар.

Таксама дакументы паведамляюць пра тое, што ў 1480-1600 гадах больш за сорак студэнтаў і выкладчыкаў Балонскага ўніверсітэта былі выхадцамі з Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, а гэта значыць, Беларусі.

### Выступаў за культуру і інтэлект дзяржаўных дзеячаў

У размове з карэспандэнтам Пётр Краўчанка падзяліўся, чаму асоба Міколы Гусоўскага блізкая асабіста яму:

– Асоба Гусоўскага даказвае, што мы, беларусы, ужо больш за шэсцьсот год – у Еўропе. Нашы хлопцы вучыліся ў знакамітым Балонскім універсітэце. Так, Падуанскі таксама быў знакаміты. Але менавіта Балонскі называлі універсітэтам нумар адзін. Гэта самы першы ўніверсітэт у свеце. Мікола Гусоўскі – чалавек, які добра ведаў каралеў Бону Сфорцу і Соф'ю Гальшанскую. Ён – аўтар лепшай лацінамоўнай паэмы «Песня пра зубра», дзе распавёў не толькі пра паляванне, а пра культуру, палітычныя падзеі ў тагачаснай Беларусі. Гусоўскага мы можам лічыць першым пацыфістам. У сваёй паэме ён заклікаў людзей рашаць праблемы мірам, а не вайной. Асуджаў багацце, казаў, што кіраўнікі дзяржаў павінны быць не багатымі, а, перш за ўсё, культурнымі інтэлектуаламі. Яшчэ Гусоўскі блізкі мне тым, што быў дыпламатам – маім калегам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**






Камяні з таямнічымі надпісамі.

# Адкуль камяні на Валожыншчыне і пра што яны кажуць

ВАЛОЖЫН

**Жыхар Івянца Альфонс Жаўток знайшоў і ўпарадкаваў 33 магілы на забытым старажытным цвінтары ў лесе ля вёскі Пагарэлка.**

## Скаціну не пускалі на могільнік

У маленстве, калі пасвіў кароў у гэтых мясцінах, ён памятаў наказ бацькоў, каб скаціну, крый божа, не пускалі на могільнік.

Гэта сакральнае месца вылучалася адметнымі камянямі з выбітымі незразумелымі знакамі, літарамі і крыжамі.

**Хадзілі чуткі, што гэта магілы французаў, шведаў або рускіх. Але да некропаля ставіліся з пашанай, падтрымлівалі парадак, наведвалі на рэлігійныя святы.**

Дарога са Скіпароўцаў на Івянец праходзіла паўз гэтыя археалагічныя помнікі, дзе непадалёк на скрыжаванні з трактам Мір-Вільня стаяла старасвецкая карчма. У пасляваенны час старшыня калгаса «Рассвет», каб спрасціць шлях, праз могілкі праклаў дарогу. Каменныя пліты зрынулі і засыпалі пяском.

**Дзякуючы Альфонсу Станіслававічу гэты помнік археалогіі часткова адроджаны. Тут праводзяць экскурсіі. Аматары даўніны даюць усё новыя каардынаты аб месцах знаходжання загадкавых графіці.**

## Знайшліся і іншыя цікавыя камяні

Нумізмат і аматар археалогіі **Валеры Мазура** заўважыў падобны аб'ект у ваколіцы вёскі Рудня Івянецкая. Аналізуючы аднатыпнасць знакаў, мы аднадушна прыйшлі да высновы, што маем справу з таямнічымі рунамі, якія часта сустракаюцца не толькі на валунах, але і на ўзорах ткацтва, жаночых упрыгажэннях, фрагментах керамікі.

**Выявы на камянях падзяляюцца на асобныя літары, лігатуры, ідэаграмы, крыжыкі. Яны маюць падабенства са скандынаўскай рунічнай пісьменнасцю.**

Вядома, што святыя тэксты арыянаў – ранніх хрысціян – Палаб'я і Памор'я пісаліся рунічным пісьмом.

**Рунічная літаратура знішчалася як паганскія праявы д'ябла. З пашырэннем хрысціянства рунічнае пісьмо было выцеснене лацінскім.**

Ватыканам абвяшчаліся крыжовыя паходы на славянскія землі Палаб'я і землі заходніх балтаў Парусся (Прусію), а потым і на Вялікае Княства Літоўскае.

## Скандынаўскі след на Валожыншчыне

Аднойчы краязнаўца **Васіль Шакун** прапанаваў супольна наладзіць экскурсію для замежных гасцей. Разам мы наведалі сакральныя аб'екты ля Пагарэлкі і Рудні, на перакрыжаванні дарог з Сівіцы на Пілюжыну і з Вуглоў на Дайнаву, камяні ля вёскі Гілікі і ў Праўжалах. Грамадзянін Германіі, які па кудзелі паходзіць з Івянеччыны, **Пётра Канечны**, упэўнена заявіў, што гэтыя помнікі – сляды вікінгаў. Такіх камянёў шмат у Германіі і Швецыі, дзе знаходзяцца пад дзяржаўнай апекай. Гэту выснову можна лічыць адной з версій у нашых даследаваннях.

Вікінгі – гэта ваяўнічыя дружыны са Скандынаўскай паўвыспы, якія на караблях-дракарах наводзілі жах на жыхароў узбярэжнай Еўропы, Ісландыі, Грэнландыі і Паўночнай Афрыкі.

Войнамі і рабаваннем вікінгі назапасілі скарбы, аб якіх засталіся толькі легенды ды сагі пра вялікі водны шлях «з варагаў у грэкі».

Адзін з лакальных маршрутаў «з варагаў у грэкі» праходзіў праз нашу зямлю: Балтыйскае мора-Нёман-Ісłач-Пціч-Прыпяць-Дняпро-Чорнае мора.

**У нашым краі гвалту і рабунку мясцовага насельніцтва з боку вікінгаў у пісьмовых крыніцах не зафіксавана. Але засталіся сляды доўгачасовых стаянак і могільнікі.**

Нельга пагадзіцца з тымі, хто лічыць, што крыж – толькі праява хрысціянства. Крыжам пакланяліся людзі ад пачатку цывілізацыі на ўсіх кантынентах як сімвалу сонца.

**Крыж – гэта і сістэма каардынат, якая дае магчымасць чалавеку арыентавацца ў прасторы і часе.**

На працягу стагоддзяў выява крыжа атрымала шмат варыяцый, розных па форме і змесце.

## Легенда пра камяні, дарогі і каханне, запісаная на Валожыншчыне

Нагадаю паданне, запісанае ў вёсцы Сівіца археолагам **Людмілай Дучыц** пра камяні на перакрыжаванні дарог. Два хлопцы былі закаханыя ў адну прыгажуню. Дзяўчына сказала: «Хай адзін ідзе ў Івянец і прынясе абаранак, а другі хай ідзе да рэчкі Волкі, зловіць рака і прынясе мне. Хто першы прынясе падарунак, за таго і пайду замуж».

**Закаханыя прынеслі падарункі адначасова, але, аддаючы іх, адначасова і памерлі. Людзі пахавалі хлопцаў, а дзяўчыну закапалі жывой. Таму тут ляжаць тры камяні, растуць дзве сасны, а пасярэдзіне бяроза.**

## Камяні – як памяць пра паўстанцаў

Сярод графіці сустракаюцца выбітыя даты «1863». Магчыма, гэта магілы паўстанцаў-каліноўцаў, бо іх хаваць на могілках забаранялі акупацыйныя ўлады.

А вось у Кульшычах, ля прыдарожнага крыжа, захоўваецца камень з пазнакай «1794». Мабыць, гэта зафіксаваныя падзеі паходу аддзела Міхала Клеафаса Агінскага ў наш край.

**Шматлікія камяні на нашай зямлі з'явіліся ў выніку сожскай стадыі дняпроўскага зледзянення каля 100-120 тысяч гадоў таму. Паверхня зямлі шчодра засеяная дробнымі і вялікімі валунамі, якія былі прынесеныя ледавіком з поўначы Швецыі, Фінляндыі, Карэліі, дна Балтыйскага мора. Камяні з'яўляюцца помнікамі прыроды і калісьці выконвалі культавыя функцыі – ім пакланяліся продкі.**

P.S. А пакуль рыхтаваўся гэты тэкст, няўрымслівы Альфонс Жаўток ужо акультурыў мемарыял ля вёскі Рудня.

Вялікі дзякуй яму за гэта!

**Алег РАМАНОЎСКІ,**
**Івянец.**
**Фота аўтара.**

## Смаргонка згуляе за зборную па баскетболе

Баскетбалістка са Смаргоні **Юлія Рыцікава** згуляе ў складзе нацыянальнай зборнай Беларусі ў кваліфікацыі чэмпіянату Еўропы-2021.

Беларуская зборная пачне кваліфікацыйны этап матчам са зборнай Вялікабрытаніі 17 лістапада. Баскетбалісткі згуляюць на выездзе ў Манчэсцеры. Беларусь знаходзіцца ў групе F разам з Вялікабрытаніяй і Польшчай. Юлія Рыцікава гуляе ў складзе беларускай зборнай больш за 12 год.

**Настасся УТКІНА.**

## Гандбалісткі зборнай Беларусі выступяць на турніры ў Польшчы

Гандбалісткі зборнай Беларусі возьмуць удзел у міжнародным турніры ў польскім Любліне. Трэнерскі штаб беларускай дружыны на чале з **Томажам Чатэрам** запрасіў на трэніровачны збор 18 гандбалістак. Зборная Беларусі будзе рыхтавацца ў Мінску, а 21 лістапада адправіцца на турнір у Люблін. Там сапернікамі беларусак будуць зборныя Польшчы, Украіны і Літвы.

**Паводле belta.by.**

## На Астравеччыне прайшоў турнір сярод джыпаў на балоце

Спаборніцтвы прайшлі ў Варнянах па GPS-арыентаванні «Руды лес-2019». У турніры прынялі ўдзел спартсмены з 16 населеных пунктаў Беларусі. Усіх удзельнікаў раздзялілі на дзве групы. Каманды на пазадарожніках фарсіравалі раку, ныралі як іх у балота, ставілі машыну амаль перпендыкулярна дну пясчанага кар'ера, каб дакрануцца да чарговага пункту заліку. Усяго ў маршруце было 70 пунктаў, да кожнага трэба было дабрацца з дапамогай навігатара.

У групе №1 (пазадарожнікі з дыяметрам колаў менш за 840 мм) перамогу святкавала астравецкая каманда на «Субару-Лягасі»: **Вадзім Камчыцкі, Вадзім Кокаш, Дзяніс Кісель**. Другое месца ў Глыбокага, трэцяе ў Мінска. У групе №2 (пазадарожнікі з дыяметрам колаў больш за 840 мм) усе прызавыя месцы заваявалі УАЗы. Першае месца ўзялі Мёры, другое – Паставы, а трэцяе заняў Астравец.

**Паводле ostrovets.by.**

● ФУТБОЛ

## ФК «Маладзечна» заваяваў буйную перамогу

Маладзечанцы згулялі 9 лістапада апошні матч у сезоне супраць каманды «Нёман-Агра» са Стоўбцаў. Падапечныя трэнера **Вяргеенкі** перамаглі сапернікаў з лікам 8:0. **Уладзіслаў Кнацько-Штэрк** адзначыўся пяццю галамі, дубль у **Сяргея Новіка** і адзін мяч на рахунку **Сяргея Крата**.

## Смаргонцам засталіся два матчы ў сезоне

У гэту суботу, 9 лістапада, смаргонскія футбалісты сустрэліся на дамашнім полі са «Смалявічамі». **Аляксей Бутарэвіч** забіў смаргонцам у апошнія дзесяць хвілін, і гэта быў першы мяч за ўсю гульню. Такім чынам, Смаргонь прайграе з лікам 1:0. ФК «Смаргонь» правядзе яшчэ дзве гульні ў гэтым сезоне.

## «Ашмяны» прайгралі лідару другой лігі

Ашмянскія футбалісты завяршылі перадапошні тур у сезоне на мінорнай ноце. Ашмяны сустрэліся з дзяржынскім «Арсеналам». Аднак не здолелі яго перамагчы, хоць **Аляксей Скварчэўскі** вывеў ашмянскую каманду наперад на 27-й хвіліне. **Дзмітры Асіпенка** забіў «Ашмянам» з пенальці, **Арцём Мірaеўскі** аформіў пераможны мяч.

## Паражэнне ў чысцінцаў

«Андэрдог» прайграў «Белшыне-2» у Бабруйску з мінімальным адрывам – 3:4. Бабруйчане павялі ў ліку ў першым тайме, аднак **Аляксандр Халадзінскі** здолеў зраўняць лік – 1:1. Футбаліст «Белшыны» **Андрэй Навумчык** адзначыўся дублем, а ў гэты час **Мікалай Мятліцкі** і **Алег Чэпа** зноў зрабілі нічыйны лік. Вырашальным аказаўся гол ад «белшынаўца» **Антона Нгуена** на апошняй хвіліне гульні.

**Настасся УТКІНА.**


Фота bcswimming.by.

Спаборніцтвы сярод дзяўчат у Маладзечне.

# Вілейскія і маладзечанскія плыўцы – з медалямі

## У Маладзечне прайшоў чацверты этап турніру «Кубак надзей»

**Каля 500 спартсменаў прынялі ўдзел у традыцыйным турніры па плаванні «Кубак надзей» у праграме адкрытага першынства Мінскай вобласці ў Маладзечне, паведамляе Беларуская федэрацыя плавання.**

Спаборніцтвы прайшлі 2 лістапада ў 25-метровым басейне Маладзечанскай ДЮСШ прафсаюзаў «Маладосць».

У праграме дадзенага этапу – дыстанцыі ў стылях брасам, батэрфляем, кролем і вольным стылем. А таксама 100 і 200 метраў у комплексным плаванні.

Турнір праводзіўся па групах: першая – 5 клас, другая – 6 клас, трэцяя – 7-8 клас, чацвертая – 9-10 клас, пятая – 11 клас.

У спаборніцтвах выступілі плыўцы з розных гарадоў Беларусі: Мінска, Барысава, Маладзечна, Салігорска, Слуцка, Вілейкі, Чэрвеня, Стоўбцаў, Нясвіжа, Беразіна, Любані і Крупак.

**Залік у этапе праводзіўся ў 50 метрах брасам**

**Дзяўчынкі**

I група, 5 клас – **Арына Акімава** на другім месцы (Маладзечна).

III група, 7-8 клас – **Ксенія Сліжык** на другім месцы, **Паліна Пузарэўская** на трэцім (Маладзечна).

IV група, 9-10 клас – **Кацярына Ганчарык** на трэцім месцы (Маладзечна).

**Хлопцы**

II група, 6 клас – **Марк Бекіш** на першым месцы (Маладзечна).

III група, 7-8 клас – **Антон Карповіч** на трэцім месцы (Маладзечна).

IV група, 9-10 клас – **Мацвей Галкін** на другім месцы (Маладзечна).

V група, 11 клас – **Ілля Буракоўскі** на першым месцы і **Мікіта Ніжнік** на другім месцы (Вілейка).

Па выніках рэйтынгавага спаборніцтва пасля чацвертага этапу **Ева Заяц** з Маладзечна знаходзіцца на трэцім месцы сярод дзяўчынак у II групе. Ксенія Сліжык займае трэці радок у III групе. Кацярына Ганчарык таксама трэцяя ў IV групе. У хлопчыкаў 6 класа **Марк Бекіш** знаходзіцца на другім месцы, а **Кірыл Саўчыц** з Вілейкі – на трэцім радку. Маладзечанец **Мацвей Галкін** сярод 9-10 класаў займае трэцяе месца.

Па выніках спаборніцтва за званне «Чэмпіён турніру» пасля 4-га этапу маладзечанка Ева Заяц знаходзіцца на трэцім месцы.

**Настасся УТКІНА.**

## Зборная Беларусі па пляжным футболе перад чэмпіянатам свету правядзе два спарынгі ў Бразіліі

**Зборная Беларусі па пляжным футболе перад дэбютам на чэмпіянаце свету правядзе два кантрольныя матчы ў Рыа-дэ-Жанейра. Адным з варатароў з'яўляецца Валер Макарэвіч са Смаргоні.**

Першы спарынг пройдзе з Японіяй 15 лістапада, а 17 лістапада адбудзецца сустрэча з дзеючым чэмпіёнам планеты зборнай Бразіліі. Перад вылетам за акіян беларуская каманда правяла ў Партугаліі два таварыскія паядынкі з нацыянальнай зборнай гэтай краіны. Першая сустрэча завяршылася перамогай партугальцаў у серыі пасляматчавых пенальці – 4:3 (асноўны час – 5:5), а ў паўторнай гульні беларусы выйгралі з лікам 8:4.

Галоўны трэнер беларускай дружыны, іспанскі спецыяліст **Нікалас Альварада**, уключыў у склад 14 футбалістаў.

Пасля двух таварыскіх матчаў у Рыа беларуская каманда адправіцца ў парагвайскі Асунсьён, дзе 21 лістапада стартуе чэмпіянат свету. Беларускія «пляжнікі» ўпершыню прабіліся ў лік удзельнікаў фінальнай стадыі планетарнага форуму. На папярэднім этапе беларусы згуляюць у групе С супраць зборных ААЭ (22 лістапада), Сенегала (24 лістапада) і Расіі (26 лістапада).

**Паводле belta.by.**

# Крыжаванка

## ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Калі не брудна.
4. Продаж тавараў з адтэрмінаванай платай або часовая выдача грошай у доўг з выплатай за гэта працэнтаў.
5. Грошы ці матэрыяльныя каштоўнасці, якія атрымліваюцца дзяржавай, гандлёва-прамысловай установай, прыватнай асобай у выніку якой-небудзь дзейнасці.
9. Пасудзіна з носікам і ручкай, у якой заварваюць чай або гатуюць ваду.
11. Які ідзе, наступае, выходзіць непасрэдна за папярэднім.
13. Дробны і мяккі, звычайна пахучы парашок, які наносіцца на скуру як гігіенічны і касметычны сродак.
14. Права зрабіць, выканаць.
17. Краіна, дзе стварылі янтарны пакой.
19. Асоба, чалавек.
20. Адна з версій паходжання гэтай назвы звязаная з царыцай, якую скраў Зеўс. А само слова значыць «захад».
21. Назва паэмы Максіма Танка, якую навеяла гісторыя забастоўкі рыбакоў.
23. Пісар, канторскі служачы ў некаторых капіталістычных краінах.
25. Самы шчыльна населены штат ЗША.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Скоры, хуткі, імклівы.
3. Хваравіты стан, звязаны з пашкоджаннем галаўнога мозга.
4. Памяшканне з печчу або плітой для гатавання ежы.
6. У феадальнай Еўропе – рэгулярныя натуральныя і грашовыя плацяжы зямельнаму ўласніку за карыстанне зямлёй.
7. Пажаданне спакойнага сну.
8. Аднойчы правялі конкурс на падабенства да яе. Сярод васьмі тысяч удзельніц перамагла 24-гадовая Хейлі Спэнсер. Хаця яе яшчэ ніхто не ведаў, яе фота пазнавалі ўсе дзеці.
10. Прозвішча рэжысёра фільма «Акно ў двор» з Грэйс Келі і Джэймсам Сцюартам у галоўных ролях.
12. Мястэчка ў Ашмянскім раёне, назва якога звязаная з зубрамі. З цягам часу назва атрымала фанетычныя змяненні. На могілках мястэчка пахаваны Францыск Багушэвіч.
14. Уніз, наніз.
15. Металічны шар для спартыўных практыкаванняў у штурханні.
16. У некаторых картачных гульнях – дадатковая карта ў калодзе, якая можа замяніць любую іншую карту.
18. Драўніна гэтага дрэва служыць сыравінай для вырабу дзёгцю.
22. Адміністрацыйны цэнтр Баварыі.
23. Прыгожы, прывабны выгляд.
24. Невысокі, да шчыкалаткі і крыху вышэй, скураны абутак на шнурках.
26. Буйная свойская аднакапытная жывёліна, якая выкарыстоўваецца для перавозкі людзей і грузаў, а таксама для верхавой язды.

● ГАРАСКОП на 15-21 ЛІСТАПАДА

**АВЕН.** Не самы просты перыяд. Многія падзеі вакол вас будуць не даспадобы. Больш за ўсё будзе засмучаць, што ніяк не атрымоўваецца паўплываць на гэтыя падзеі. Пастарайцеся не сварыцца з уплывовымі людзьмі.

**ЦЯЛЕЦ.** Першая палова тыдня будзе плённай. Атрымаецца вельмі хутка справіцца са справамі, якія ў іншы перыяд занялі б значна больш часу. Вашы дасягненні не застануцца незаўважанымі.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вы будзеце шмат думаць пра будучае. Але пажадана не забываць глядзець на тое, што адбываецца проста зараз. Не саромцеся звяртацца па парады да блізкіх. Вас чакае не толькі падтрымка, але і разумныя словы.

**РАК.** Перыяд спрыяльны для нечаканых учынкаў. Варта дзейнічаць так, як падказвае інтуіцыя. На гэты час менавіта яна стане для вас і найлепшым сябрам, і дарадцай. Выдатны час для рамантычных сустрэч – яны могуць стаць нечым большым.

**ЛЕЎ.** Выдатны перыяд, каб абмяркоўваць або ўвасабляць сур'ёзныя задумы. Не губляйце час на штодзённую драбязу – займайцеся вялікімі справамі. Не шкадуйце на іх ні часу, ні рэсурсаў. Калі зробіце самае важнае, можаце пераходзіць да менш істотных рэчаў.

**ДЗЕВА.** Выдатны час для сустрэч і размоў. На новых знаёмых вы зробіце самае прыемнае ўражанне. Зможаце памірыцца з тымі, з кім пасварыліся. У рамантычных адносінах варта зрабіць рашучы крок.

**ШАЛІ.** Вас чакаюць добрыя навіны. Пагаджайцеся на нефармальныя сустрэчы – атрымаеце шанец абмеркаваць важныя пытанні па працы, супрацоўніцтве і грошы. Калі любоўныя сувязі вас абцяжарваюць, пастарайцеся пакуль пераключыцца на працу.

**СКАРПІЁН.** Няпросты, але запамінальны перыяд. Вы дакладна будзеце не ў настроі ісці на кампрамісы, што можа ўскладніць блізкія адносіны. Каб дасягнуць поспеху, трэба быць настойлівым. Чым больш прыкладзяце намаганняў, тым больш атрымаеце ў адказ. Магчымае знаёмства, якое перацячэ ў рамантычныя адносіны.

**СТРАЛЕЦ.** Магчыма, прыйдзецца адступаць ад планаў і ісці на саступкі. Калі ў вас атрымаецца праявіць гібкасць, вы пазбегнеце сур'ёзнага канфлікту. Выдатны перыяд для асаблівых спатканняў, але пра іх спатрэбіцца паклапаціцца самім.

**КАЗЯРОГ.** Вельмі важна ў гэты час нічога не адкладаць на потым. Гэтыя справы не будуць даваць вам спакою ўсё роўна, так што прасцей узяць ды закончыць. Варта прысвяціць час гаспадарцы – не забывайце, што ад стану нашага дому залежыць і настрой.

**ВАДАЛЕЙ.** Важна сур'ёзна ставіцца да ўсіх спраў, каб пазбегнуць памылак. Не тое каб задачы былі складанымі. У першую чаргу будзе важна ваша канцэнтрацыя і падрыхтаванасць.

**РЫБЫ.** Перамены ў асабістым жыцці пакуль варта трымаць у сакрэце. Добры час, каб паклапаціцца пра здароўе – падумайце, што канкрэтна вас клапоціць апошнім часам.

Эмілія ХВОЯ.

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 4 | 6 | | | | 7 |
| 3 | | 4 | 5 | | | 8 | | |
| 7 | | 6 | | | 3 | | | 4 |
| 9 | | | | 8 | 5 | | 2 | |
| 2 | 3 | | 1 | | 4 | | | |
| | 6 | 1 | | | | | | 8 |
| | 2 | 3 | | | | | | 5 |
| 1 | | | | | | | | 2 |
| | | | | 9 | 8 | | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 5 | 2 | 4 | 6 | 9 | 1 | 3 | 7 |
| 3 | 1 | 4 | 5 | 2 | 7 | 8 | 6 | 9 |
| 7 | 9 | 6 | 8 | 1 | 3 | 2 | 5 | 4 |
| 9 | 4 | 7 | 6 | 8 | 5 | 3 | 2 | 1 |
| 2 | 3 | 8 | 1 | 7 | 4 | 5 | 9 | 6 |
| 5 | 6 | 1 | 9 | 3 | 2 | 4 | 7 | 8 |
| 6 | 2 | 3 | 7 | 4 | 1 | 9 | 8 | 5 |
| 1 | 8 | 9 | 3 | 5 | 6 | 7 | 4 | 2 |
| 4 | 7 | 5 | 2 | 9 | 8 | 6 | 1 | 3 |



## Адказы на крыжаванку з №45

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Шамякін. 4. Верш. 5. Джокер. 6. Чака. 7. Гадзіна. 11. Цыкл. 12. Кайзер. 14. Навука. 16. Краб. 17. Кабінет. 18. Калыска. 21. Чмель. 22. Францыя. 23. Выток. 24. Бумеранг. 25. Гарох.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Голад. 2. Веліч. 4. Вожык. 8. Надзел. 9. Незнарок. 10. Наркоз. 13. Вакал. 15. Талерка. 16. Кабачок. 19. Цкаваць. 20. Юрыст. 23. Вабіць. 26. Норд.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY



## Чытайце праз тыдзень:

- «У той дзень бацька прыйшоў з работы, пасадзіў мяне малога на калені, доўга гладзіў і цалаваў. Аказалася, ён ужо ведаў, што днямі яго забяруць». Ураджэнец Вілейшчыны Уладзімір Папковіч расказаў пра сваё дзяцінства, вучобу ў ільянскай школе і арышт бацькі савецкімі ўладамі.

## 16 лістапада, субота

**Вецер:** паўднёвы, 5 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -11,1°С у 1999 годзе
Максімальная тэмпература +9,1°С у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,4 мм у 2000 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ!»

**Пачалася падпіска на першае паўгоддзе 2020 года!**



**Падпісацца на «РГ» можна:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-пляцажоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**
- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек;
- на паўгоддзе – 29 рублёў 40 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**
- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў;
- на паўгоддзе – 90 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці спатрэбілася вам вышэйшая адукацыя пры ўладкаванні на працу?



**Дзіна Хацяновіч, гаспадыня:**
– У мяне сярэдняя спецыяльная адукацыя. І пытанне не ў адукацыі, а ў працаўладкаванні.



**Вячаслаў Баранаў, відэёграф:**
– Лічу, што кожны павінны імкнуцца атрымаць вышэйшую адукацыю, а потым ужо вырашаць, спатрэбіцца яна табе па дыпломнай спецыяльнасці ці не.



**Аляксандр Хацяновіч, памочнік машыніста:**
– Вышэйшай адукацыі не маю, але ведаю шмат людзей, якім яна не спатрэбілася пры ўладкаванні на працу. Як паказвае жыццё, вышэйшая адукацыя не дае ніякіх гарантый у розных жыццёвых абставінах.



**Ганна Разуева, повар:**
– Вышэйшай адукацыі ў мяне няма, таму мне не спатрэбілася. У кожнага свае прыярытэты ў жыцці. Магу сказаць пра нашу адукацыю, што калі я вучылася, мае выкладчыкі адносіліся да працы з самааддачай. Цяпер мае дзеці пайшлі ў другі клас, час пакажа, што з адукацыяй.



**Сяргей Сямашка, інтэрнэт-маркетолаг:**
– Спатрэбілася. Вучыўся ў БНТУ па спецыяльнасці інжынер-праграміст, але на дадзены момант па спецыяльнасці не працую.



**Паліна Чарняўская, студэнтка:**
– Я яшчэ вучуся. Скажу пра адукацыю тое, што ўзровень валодання беларускай мовай мяне задавальняе. А па будучай спецыяльнасці планую працаваць.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№46 (1281) 15.11.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РолПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1854. Падпісана ў друк у 9.00 14.11.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.